# БАЦЬКАЎШЧЫНА

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 38 (268) — Нядзеля 18 верасьня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Пара зрабіць адпаведныя вывады

## НА МАРГІНЭСЕ ПРАВАКАТАРСКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ ЎСХОДНЯБЭРЛІНСКАГА КАМІТЭТУ

Агульна ведама, што г. зв. «Камітэт за паварот на бацькаўшчыну» зьяўляецца неафіцыяльнай прыбудоўкай савецкіх дзяржаўных органаў бясьпечнасьці (КГБ — «Комитет Государственной Безопасности», ачолены ген. Іванавам-Серавам), значыцца ўсемагутнага савецкага дзяржаўнага апарату тэрору ня толькі ўнутры СССР, але й вонках яго. Аб гэтым ужо сьветчыць сама асоба генэрала дзяржаўных органаў савецкае бясьпечнасьці Міхайлава, які стаіць на чале ўсходнябэрлінскага камітэту. Добра паінфармаваны мюнхэнскі штодзёньнік «Мюнхэнэр Мэркур» у нумары за 1 верасьня сёлета аўтарытэтна паведаміў, што гэты камітэт «быў зарганізаваны Аддзелам для справаў эміграцыяў Камітэту Дзяржаўнае Бясьпечнасьці (КГБ — раней МГБ) у Бэрліне-Карльсгорсьце; яму было дадана восем высокіх ахвіцэраў савецкай службы бясьпечнасьці».

Ды і сама дзейнасьць усходнябэрлінскага камітэту носіць усе азнакі правакацыі, дывэрсіі, шантажу й маральнага тэрору, якімі паслугоўваюцца савецкія органы бясьпечнасьці ў вольным сьвеце. Выдаваны ад красавіка сёлета аднайменны орган гэтага камітэту ў расейскай і беларускай мовах і масава рассыланы паасобным эмігрантам у заходніх краінах ёсьць перапоўнены рознымі правакацыйнымі інсынуацыямі пад адрасам паасобных эмігрантаў. Дасканалым прыкладам правакацыі гэтай можа служыць нядаўна зьмешчаны ў «Бацькаўшчыне» ліст гэтага камітэту, собскаручна падпісаны ягоным старшынём ген. Міхайлавам, да ведамага казацкага журналістага ў Мюнхэне сп. Палякова. Ліст зьяўляўся адказам на пісьмо сп. Палякова ў усходнябэрлінскі камітэт, якога сп. Палякоў ніколі ня пісаў. Мэта пісьма ясная: кінуць на сп. Палякова цень падазрэньня з боку заходніх органаў бясьпечнасьці, што ён быццам знаходзіцца ў кантакце з камітэтам «За паварот на бацькаўшчыну».

Гэты камітэт, апрача сваей газэты, проста засыпае эмігрантаў індывідуальнымі лістамі. Як найбольш тыповы ўспомненая нямецкая газэта прыводзіць наступны ліст: «Ад людзей, што вярнуліся ў Савецкі Саюз, мы даведаліся, што Вы таксама цікавіцеся справай Вашага павароту на бацькаўшчыну. Дзеля гэтага мы Вам перасылаем нашую газэту „За паварот на бацькаўшчыну“, у якой гэтыя пытаньні абгаварваюцца. Мы Вас просім паведаміць нас аб атрыманьні гэтае газэты, а так-жа паведаміць, што Вас паўстрымоўвае ад павароту на бацькаўшчыну. Камітэт быў-бы Вам удзячны, калі-б Вы прыслалі яму адрасы іншых суродзічаў, якім мы маглі-б пасылаць нашую газэту. У чаканьні Вашага адказу, перасылаем Вам прывітаньні з бацькаўшчыны. Старшыня камітэту «За паварот на бацькаўшчыну» Г. Ф. Міхайлаў».

Раўналежна з гэтым камітэт рассылае эмігрантам лісты іхных родзічаў на бацькаўшчыне, у якіх апошнія заклікаюць вяртацца дамоў. Яны пішуць, што тыя, якія ўжо вярнуліся дамоў, добра там уладзіліся, жывуць разам з сваімі сем'ямі, маюць добрую работу і ніхто іх ня перасьледуе за ранейшую дзейнасьць. Часамі ў такіх пісьмах бываюць выразныя намёкі, што калі дадзены эмігрант ня вернецца, дык пацерпіць ягоная сям'я на бацькаўшчыне.

Як мы ўжо пісалі, нядаўна камітэт правёў у Заходняй Нямеччыне добра зарганізаваную й пасьпяховую акцыю выкраданьня пэрсанальных картатэк і адрасоў эмігрантаў. Амаль адначасна зьніклі ўсе пэрсанальныя акты й картатэкі жыхароў многіх лягераў і пасёлкаў для безьдзяржаўных чужынцаў у Заходняй Нямеччыне, адміністраваных Немцамі. У гэтым ня было вялікага дзіва, бо няведаньне Немцамі бальшавіцкіх мэтадаў дзеяньня і іхная неасьцярожнасьць у такіх справах ведамая. Але дзіўным і моцна загадкавым было тое, што, як нядаўна паведаміла нямецкая прэса, была выкрадзеная пэрсанальная картатэка сяброў і зарэгістраваных пасьляваенных эмігрантаў у мюнхэнскім г. зв. ЦОПЭ («Центральное Об'единение Послевоенных Эмигрантов»). Гэтая-ж прэса паведаміла, што ў сувязі з гэтым пасьляваенныя эмігранты пачалі западозрываць у нячыстых справах старшыню ЦОПЭ маёра Клімава.

Апошнім часам пачалі ўжо здарацца выпадкі, што сёй-той з эмігрантаў вярнуўся «на родину» на заклік камітэту. Сярод іх бываюць і такія, што займалі ў эміграцыйным руху й заходніх установах некаторыя становішчы і шмат аб чым ведаюць. Не падлягае сумлеву, што гэта былі замаскаваныя савецкія агенты, якія цяпер атрымалі загад ад сваіх зьверхнікаў вярнуцца на бацькаўшчыну, бо тут яны ўжо непатрэбныя. Іх замянілі іншыя, болей законсьпіраваныя. Тым ня меней, псыхалягічнае ўзьдзейваньне такіх выпадкаў на эмігрантаў вельмі прыгнечваючае.

Мэты й заданьні камітэту «За паварот на бацькаўшчыну» шырокія й разьлічаныя ня толькі на сяньняшні дзень, а сама акцыя дзеля ўжыцьцяўленьня іх вельмі прадуманая і ўмелая. Гэтымі мэтамі ёсьць з аднаго боку маральна стэрарызаваць палітычных эмігрантаў, прыпомніць ім вядомую энкавэдоўскую пагрозу «от нас, мол, нигде не спрячешся», разлажыць іх маральна і гэтым палітычна абясшкодзіць. Далей, шляхам шантажу й правакацыяў, як у выпадку з казацкім журналістым Паляковам, камітэт мае на мэце зламаць паасобных эмігрантаў маральна, пасеіць між імі ўзаемны недавер, выклікаць узаемныя падазрэньні ў савецкай агентурнасьці ды скампрамітаваць іх перад заходнімі грамадзтвамі. З другога боку, — і аб гэтым ужо пішуць больш цьвярозыя й прадбачлівыя заходнія публіцыстыя — дзейнасьць усходнябэрлінскага камітэту пасярэдна адбіваецца й на настроях жыхароў самога Савецкага Саюзу. Гэтыя журналістыя сьцьвярджаюць, што з мамэнтам распачацьця дзейнасьці ўсходнябэрлінскага камітэту хваля ўцекачоў з Савецкага Саюзу на Захад раптоўна зьменшылася. Яны алярмуюць, што Захад хутка можа быць пазбаўлены найбольш сьвежых інфармацыяў аб Савецкім Саюзе.

Нельга не згадзіцца, што распачатая савецкімі дзяржаўнымі органамі бясьпечнасьці дывэрсыя супраць палітычных эмігрантаў, ведзеная камітэтам «За паварот на бацькаўшчыну», не дае бальшавікам пажаданых вынікаў. Гэтыя вынікі ёсьць па абодвух баках зялезнае заслоны. Мы пэўныя, што яны будуць што раз большыя, калі з боку заходніх колаў ня будзе разумнай станоўчай контракцыі.

Бальшыня заходніх экспэртаў у справах эмігрантаў з Савецкага Саюзу ўважае, што цяжкае матарыяльнае палажэньне многіх зь іх на Захадзе зьяўля-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Верым у палітычны розум

Жэнэўская канфэрэнцыя заактуалізавала столькі міжнародных праблемаў, што часам паважныя весткі прасьлізваюцца ня выклікаючы ўвагі, на якую яны заслугоўваюць. На аднэй з такіх вестак мы й затрымаемся. Прыводзім вытрымку з парыскае газэты „Le Monde“ ад 6-га верасьня г. г.:

«Пры наступнай сустрэчы ў Жэнэве, Вашынгтон зьбіраецца прасіць Расейцаў ня глушыць перадачаў «Голасу Амэрыкі», прызначаных для Расеі. За гэта, амэрыканскі ўрад перастаў-бы падтрымоўваць тэхнічна й фінансава радыястанцыі «Вольная Эўропа» й «Вызваленьне», мэтай якіх зьяўляецца заахвочваньне да паўстаньня ды падрыўных актаў за зялезнай заслонай (Sic!). Тэадор Штрайбэрт, дырэктар амэрыканскае Інфармацыйнае Службы, падаецца сяньня ў Дэнвэр, каб абгутарыць з Прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам палажэньне, якое вытварылася апошнім часам на фронце прапаганды».

Гэты-ж артыкул быў таксама зьмешчаны ў гэты-ж дзень на першай бачыне цэнтральнай бэльгійскай газэты „Le Soir“.

„Le Monde“ ведамы з сваіх сьлепа-суіснавальніцкіх паглядаў, і таму можна было-б палічыць гэтую вестку за журналістычную «качку», якіх нямала цяпер ў прэсе ды якія маюць сьветчыць аб нямінучым міжнародным адпружаньні. Выяўляецца аднак, што ўспамінаны артыкул больш-менш дакладна (хоць з сэнсацыйнай прыкрасай) перадае зьмест вялікага артыкулу, зьмешчанага ў нядзельным выданьні ўплывовай „The New York Times“ ад 4 верасьня г. г. А зьмест яго такі: амэрыканскія колы, а перадусім «Голас Амэрыкі», зусім разгубленыя новай савецкай тактыкай вядзеньня прапаганды. Ня гледзячы на тое, што Саветы дазваляюць выказвацца сваім афіцыяльным прадстаўніком праз «Голас Амэрыкі» (як кіраўніку земляробскай дэлегацыі Мацкевічу), яны ў той-жа час надалей глушаць перадачы гэтага радыя. Амэрыканцаў асабліва зьдзіўляе факт, што, напрыклад, зьмест выступу Мацкевіча быў пасьля апублікаваны ў «Правде» і перададзены праз маскоўскае радыё, але — нота бэнэ — назоў «Голасу Амэрыкі» не ўспамінаўся. Далей даслоўна: «Некаторыя экспэрты лічаць магчымым, што Расея можа згадзіцца ня глушыць «Голасу Амэрыкі». Яны паказваюць на факт, што тон «ГА» стаўся лагаднейшым пасьля Жэнэўскай канфэрэнцыі (Sic!), але існуюць паважныя сумлевы, каб Савецкі Саюз мог згадзіцца ня глушыць «Вольнае Эўропы» й «Вызваленьня»...

«Аднак, калі-б умова ў Жэнэве ня глушыць «ГА» была часткай агульнай умовы, гэта магло-б вытварыць такі міжнародны клімат, у якім такія акцыі, як «ВЭ» і «Вызваленьне», згубілі-б сваю рацыю быту». І столькі — гэтак канчаецца артыкул.

Мы аднак ня можам паставіць у гэтым месцы пункту, як гэта робіць карэспандэнт газэты. Справа запаважная, каб задавольвацца «калі-б». Паверыць, што амэрыканскі ўрад запраўды ўзважвае такія меры, гэта дапусьціць, што ён верыць у магчымасьць суіснаваньня, галоўныя ўмовы якола дыктуе Савецкі Саюз. Гэтага можна чакаць ад „Le Monde“, але хіба не ад народу, на якім ляжыць адказнасьць за будучыню сьвету ды які меў час пазнаць запраўдныя намеры камунізму. Пазнаць-жа іх, гэта сьцьвердзіць, што іхныя апошнія палітычныя ходы зьяўляюцца толькі зьменай тактыкі; што адпружаньне ў тэй форме, у якой яго хочуць выклікаць бальшавікі, было-б у канчатковым выніку палітычным самагубствам усяго сьвету.

Пачнем ад найменшага. Бальшавікі згодзяцца ня глушыць «ГА» толькі ў тым выпадку, калі апошні ня будзе ўяўляць сабой ніякае небясьпекі для іхняе ўлады — інакш кажучы, калі будзе перадаваць выпаласканыя, перабраныя весткі, пакідаючы камэнтаваньне ці проста перакручваньне іх савецкаму радыю. Ніхто не запярэчыць, што такая разьвязка была-б раўназначнай із зрадай аднаго з галоўных прынцыпаў дэмакратыі — свабоды інфармацыі.

Ведаем, што такія радыястанцыі, як «ВЭ», а мо яшчэ больш «Вызваленьне» — гэта соль у вока бальшавіком. Яны не «заахвочваюць да паўстаньня», — гэта было-б праступствам без магчымасьці іх рэальнай падтрымкі, — але яны зьяўляюцца голасам вольных суродзічаў, які падтрымоўвае веру ў вызваленьне й канчатковую перамогу дэмакратыі. Гэта якраз робіць іхную эфэктоўнасьць далёка ня меншай, чымся «ГА», і хто ведае, ці не бальшавікі запрапанавалі такі гандаль праз гэтак званыя «нэўтральныя колы»?

Што-б азначала зьліквідаваньне гэтых пляцовак? Першым чынам, бальшавікі здабылі-б адзін вельмі важны псыхалягічны атут: яны мелі-б поўнае права даводзіць паняволеным народам, што эміграцыя зьяўляецца бязвольнай, тактычнай зброяй «заходніх імпэрыялістых», а не ідэялягічнай сілай. Гэткая дыскрэдытацыя эміграцыі прынесла-б вялікую шкоду нашым натуральным саюзьнікам у будучыні: у выпадку новай зьмены палітычнай сытуацыі — а на гэта трэба заўсёды разьлічваць — ідэялістычны элемэнт сярод эмігрантаў баяўся-б ангажавацца ў падобныя акцыі, маючы горкае дасьветчаньне мінулага.

(Заканьчэньне на 4-ай бачыне)

# Чышчэньне мінуласьці

## (Спробы самакантролі гісторыі)

Калі паслухаць некалькіх навочных сьветкаў, якія толькі-што бачылі нейкі выпадак на вуліцы, дык расказы кажнага зь іх, хоць і маючы тыя самыя элемэнты, будуць розьніцца, а ў некаторых дэталях навет пярэчыць адзін другому. Розьніцы тут будуць вынікаць у залежнасьці ад таго, зь якой адлегласьці дадзены сьветка бачыў выпадак, зь якога боку вуліцы ён быў, чым ён быў заняты ў гэны мамэнт і г. д., і г. д. Разыходжаньні ў вапісаньні таго-ж самага выпадку яшчэ пабольшацца, калі аб ім давядзецца чуць з другіх ці трэйціх вуснаў.

Гэта быў толькі адзін адасоблены выпадак і апісаньне яго. Што-ж тады казаць аб бесканцовым сьцязе «выпадкаў» у жыцьці й іхным прычыновым павязаньні між сабой, якія й твораць тое, што мы завем мінуласьцяй, больш ці менш аддаленай, і якая зьяўляецца аб'ектам вывучаньня гісторыкамі. Чым гэтая мінуласьць будзе больш аддаленай, тым, зразумела, магчымасьць аб'ектыўнага пазнаньня яе становіцца меншай. Дарма, што мэтады працы гісторыкаў паляпшаюцца; дарма, што тэхнічныя магчымасьці вывучаньня навет мінулага сяньня беспараўнальна лепшыя, чымся калісьці, — усёроўна застаецца шмат белых месцаў у гісторыі, якія невядома ці будуць калі-небудзь запоўненыя. Часамі-ж навет гэтых белых месцаў яшчэ прыбывае, бо нярэдка тое, што яшчэ 200—300 год таму ўважалася за гістарычную праўду, сяньня трактуецца як звычайны абсурд. Прыкладам, можна пабачыць у бібліятэках некаторыя гэнэалягічныя атлясы князёў, каралёў ды манархаў, апрацаваныя ў XVI ці XVII стагодзьдзі слаўнымі прафэсарамі ведамых унівэрсытэтаў, ды якія пачынаюцца ад Адама й Эвы. Там навет можна пабачыць дату, калі «Эфэт акупаваў Эўропу...»

Аднак, апрача гэтых незапоўненых, белых месцаў, у гісторыі сустракаюцца яшчэ іншыя, шмат горшыя зьявішчы, чорныя месцы, калі так можна назваць іх. Гэта **сьведамае** хвальшаваньне гісторыі, для тых ці іншых мэтаў. А такое хвальшаваньне праводзілася й праводзіцца аж да сяньняшняга дня. Найчасьцей яно рабілася з мэтай, каб «навукова-гістарычнымі аргумэнтамі падмацоўваць розныя палітычныя ходы, махінацыі й патрабаваньні. Нярэдка прычынай зьяўляецца проста сьляпы нацыянальны эгаізм. У сваёй-жа спрошчанай форме (выслаўляньне ўсяго, што сваё, і ганьбаваньне чужога) такая гісторыя падносілася ды падносіцца моладзі ў школах, каб дапамагчы гэтым узгадоўваць яе ў патрыятычным духу. Наагул-жа хвальшаваньне гісторыі — зьявішча найбольш частае ў краінах зь імпэрыялістычнымі імкненьнямі, якія свой імпэрыялізм апраўдваюць нейкім якраз **гістарычным** пакліканьнем іх на ролю пратэктараў іншых народаў. Хопіць узяць для прыкладу Расею. Мыляюцца тыя, а на Захадзе ёсьць такія, што ўважаюць быццам-бы толькі бальшавікі пачалі хвальшаваць гісторыю Усходняе Эўропы. Няпраўда, у гэтым кірунку бальшавікі мелі дастойных сабе настаўнікаў у асобах гісторыкаў царскае Расеі. Некаторыя ў вабароне гэтых апошніх паклікаюцца на тое, што пры царскім рэжыме гісторыкі ня мелі свабоды, былі зьвязаныя цэнзурай. Такія цьверджаньні ня маюць ніякае вартасьці, бо чаму-ж тады расейскія гісторыкі-эмігранты, ня маючы над сабой больш цэнзуры, замацоўвалі ў сваіх працах увесь хвальш, што запоўнівае расейскую гісторыю, замест раскрываць яго?

Да гэтага пытаньня вернемся яшчэ ў будучыні, а сяньня зьвернем увагу на цікавыя экспэрымэнты, што пачалі праводзіцца над дэфальсыфікацыяй падручнікаў гісторыі ў заходняй Эўропе.

У пасьляваенныя гады ў Браўншвайгу (Зах. Нямеччына) зь ініцыятывы нямецкага настаўніцтва паўстаў г. зв. Інстытут Школьных Падручнікаў. Ініцыятары разважалі, што калі школьны падручнік ды асабліва — гісторыі, зьяўляецца дапаможнікам у фармаваньні сьветапагляду вучня, значыць трэба яго ачысьціць ад усялякае атруты. Зразумела, гісторыкі й выкладчыкі гісторыі іншых краінаў таксама пагадзіліся, што падручнікі гісторыі павінны быць вычышчаныя ад шавіністычных напластаваньняў.

Як-жа працуе Інстытут? Для разгляду тых ці іншых спорных і няясных пытаньняў гісторыі тут склікаюцца навуковыя канфэрэнцыі гісторыкаў, кампэтэнтных у дадзеным пытаньні. Ня вузка нацыяналістычныя інтарэсы, але поўнасьцяй аб'ектыўныя й навуковыя дадзеныя бяруцца на ўвагу пры разглядзе гісторыі. Да гэтага часу ўжо адбылося 19 канфэрэнцыяў, у выніку якіх шмат падручнікаў ужо папраўлена. Звычайна, аўтар падручніка, ці іншага гістарычнага твору, пасылае сваю працу ў Інстытут, дзе яна даецца на разгляд іншым навукоўцам зацікаўленых краінаў. Калі, скажам, Немец напісаў штосьці, што тычыцца гісторыі Амэрыкі, дык ён у першую чаргу кансультуецца ў сваіх амэрыканскіх калегаў. Калі-ж гэты Немец піша зь гісторыі Нямеччыны, дык ён дае сваю працу на разгляд тым чужынецкім навукоўцам, якія ў гісторыі Нямеччыны найбольш кампэтэнтныя. Прыкладам, апублікаваная Карлям Мількэ ў 1954 годзе «Гісторыя Ваймарскае Рэспублікі» мае на загалоўнай бачыне заўвагу: «Гэта кніжка, у рамках інтэрнацыянальнае самакантролі аўтараў школьных падручнікаў, была прадстаўлена чужынецкім калегам». Падобныя заўвагі на падручніках гісторыі заходніх краінаў і перадусім францускіх, можна бачыць штораз часьцей.

Бязумоўна, такая інстытуцыя, хоць і не зьяўляецца прымусовай для аўтараў, аднак мае вялікае значаньне з навуковага гледзішча. Шмат няясных момантаў у гісторыі ці прыкрых непаразуменьняў, што выцякаюць з тэндэнцыйнага інтэрпрэтаваньня гістарычных фактаў можна будзе высьняць у чыста навуковай і сяброўскай атмасфэры, а гэтым самым дапамагаць ліквідаваць тыя прычыны, што родзяць няпрыязьнь і недавер між суседнімі народамі.

Нажаль, у сучасных палітычных абставінах ня можа быць навет і мовы аб такім дабравольным самакантролі гісторыкаў Ўсходняе Эўропы. Для іх гістарычная праўда мусіць супадаць з вымогамі генэральнае лініі партыі. Там, дзе яна адхіляецца ад гэтае лініі, яна становіцца праступствам і адпаведна караецца. А дзеля таго цяжка паставіць якія-небудзь абвінавачаньні падсавецкім гісторыкам што фактычна зьяўляюцца навуковымі нявольнікамі. Але затое нельга прабачыць тым шавіністычным польскім і расейскім гісторыкам-эмігрантам, якія маючы свабоду, усёадно пры кажнай нагодзе стараюцца свае эгаістычныя нацыянальныя інтарэсы пры дапамозе хвальшу ставіць вышэй запраўдных гістарычных фактаў. Гэтага ў будучыні навука не даруе.

**А. Г.**

# Пара зрабіць адпаведныя вывады

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ецца найбольш спрыяльнай глебай для дзейнасьці ўсходнябэрлінскага камітэту. Ставячы такія дыягнозы,гэтыя экспэрты не дацэньваюць палітычных эміграцыяў, іх несправядліва крыўдзяць і навет балюча зьняважаюць. Навет тыя з эмігрантаў, якім не дазволена было выехаць за акіян і якія вядуць цяпер напоўгалоднае існаваньне пад апекай нямецкага «Фюрзоргэ» ў лягерах Заходняй Нямеччыны, із ранейшай собскай практыкі добра ведаюць, што ім тут паводзіцца шмат лепей, чымся ў савецкіх калгасах. Апрача ўсяго іншага, тут кажны эмігрант цэніць яшчэ й тое, што не патрабуе кажную ноч дрыжэць і прыслухоўвацца, ці ня зьбліжаецца, да дому, дзе ён жыве, чорная аўтамашына, ці не загрукацяць зараз на сходах цяжкія энкавэдоўскія боты, ці не пачуецца раптам гвалтоўны стук у дзьверы...

Ёсьць нешта важнейшае ў жыцьці эмігрантаў з Савецкага Саюзу, што спрыяе дзейнасьці камітэту «За паварот на бацькаўшчыну». Гэта — палітычная бяспэрспэктыўнасьць эміграцыі і ейнае зусім абгрунтаванае расчараваньне да Захаду. Бясспрэчна, галоўную тут іграе ролю, калі так выразіцца, вялікая палітыка Захаду, ведзеная шэфамі і ўрадамі заходніх дзяржаваў пад знакам г. зв. каэгзыстэнцыі. Народы Савецкага Саюзу й іхныя прадстаўнікі ў вольным сьвеце пачынаюць пераконвацца, што ім няма чаго спадзявацца якой-небудзь помачы ад Захаду і таму трэба пагадзіцца зь лёсам ды выкінуць усякія надзеі на вызваленьне з пад бальшавізму, як зусім нярэальныя. Заходняя прэса нядаўна паведаміла, што на канфэрэнцыі чатырох міністраў замежных справаў, што распачнецца ў Жэнэве 26 кастрычніка, Амэрыканцы быццам маюць запрапанаваць Саветам, каб апошнія за цану спыненьня радыяперадачаў за зялезную заслону радыястанцыяў «Вызваленьне» і «Вольная Эўропа» перасталі глушыць радыяперадачы «Голасу Амэрыкі». Мы ня верым, каб наступіла такая ганебная капітуляцыя Амэрыканцаў у халоднай вайне. Затое мы пэўныя, што калі пытаньне радыяперадачаў за зялезную заслону будзе з заходняга боку ў такой роўніцы хаця-бы толькі пастаўленае, дык гэта мела-б проста неаблічальныя вынікі і сярод народаў Савецкага Саюзу, якія яшчэ захавалі іскру надзеі ў дачыненьні да Захаду, і сярод іхных эміграцыяў на Захадзе.

Каэгзыстэнцыйны кірунак афіцыяльнай палітыкі Захаду можна было яшчэ камэнтаваць як тактычны толькі ход, патрэбны для тых ці іншых часовых мэтаў кіраўнікоў заходніх дзяржаваў, і тым самым нэўтралізаваць упадніцкія настроі. Але-ж апрача афіцыяльнай палітыкі ёсьць яшчэ палітыка «прыватная», за якую ўрады дэмакратычных дзяржаваў не нясуць ніякай адказнасьці. Гэтак Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму, прыватная арганізацыя амэрыканскіх антыбальшавікоў, паставіў сваім заданьнем несьці матарыяльную й маральную помач эмігрантам з Савецкага Саюзу ў іхным змаганьні з бальшавізмам. Заданьне, пэўне-ж, прыгожае, але... Хаця мы ў многім і не згаджаемся з Амэрыканскім Камітэтам, але да ягоных намаганьняў ставіліся й стаімся ў прынцыпе пазытыўна. Таму уважаем сваім маральным правам выказаць сумную думку, што камітэт «За паварот на бацькаўшчыну» за чатыры зь лішнім месяцы сваей дзейнасьці сярод эміграцыяў зрабіў для бальшавіцкіх інтарэсаў болей, чымся для інтарэсаў Захаду зрабіў Амэрыканські Камітэт на працягу чатырох зь лішнім год свайго супрацоўніцтва з эміграцыямі. Аснаўныя-ж дасягненьні эміграцыяў у іхным антыбальшавіцкім змаганьні былі зробленыя гэтымі эміграцыямі без дапамогі гэтага Камітэту, а ня рэдка й супраць інтэнцыяў ягоных.

Бо што-ж робіцца сяньня супраць акцыі ўсходнябэрлінскага камітэту на Захадзе? Выдаваньне сьціплых месячных украінскіх бюлетэняў «Мы яшчэ вернемся» ды пары такіх-жа бюлетэняў расейскіх — гэта нічога ў параўнаньні зь вялізарным арсэналам тэхнічных і матарыяльных сяродкаў, якімі распараджаецца ўсходнябэрлінскі камітэт, будучы замаскаванай прыбудоўкай найсільнейшага ў сьвеце дзяржаўнага апарату тэрору. У той час, калі трэба памагчы эміграцыям супрацьдзеіць шырака й станоўча, калі трэба пакінуць за імі іхнюю поўную ініцыятыву і іхныя мэтады дзеяньня, тыя заходнія дзейнікі, якія ўзялі на сябе заданьне нясеньня гэтае помачы, ужо каторы год яшчэ толькі «вывучаюць» гэтыя эміграцыі. А калі і робяць тыя ці іншыя спробы канкрэтнага дзеяньня, дык іх параліжуюць у самым зародку накіданымі згары рамамі незадачлівага «непрадрашэнства» ў той час, калі бальшавікі ў ніякае «непрадрашэнства» ня гуляюць.

Пішам гэтыя словы не патое, каб упікнуць заходнім арганізацыям, што паставілі сваёй мэтай супрацоўнічаць з эміграцыямі ў іхным антыбальшавіцкім змаганьні, ды самі-ж гэтае супрацоўніцтва тармозяць, але па тое, каб сьхіліць іх задумацца, што далей гэтак нельга. Бальшавікі паказалі, што эміграцыі ёсьць вельмі важным фактарам у псыхалягічнай вайне Захаду з бальшавізмам, і зрабілі з гэтага належныя вывады. Няхай-жа тады заходнія дзейнікі зробяць і свае вывады, пакуль яшчэ ня позна!

**Мацьвей Заранка**

# Прыгон у XX-ым стагодзьдзі

Старшыня калгасу «За Радзіму» Клічаўскага раёну Магілеўскай вобласьці Прытуленка разважае катэгорыямі тыпічнага калгаснага старшыні: ёсьць калгас, ёсьць партыйныя дырэктывы, і калгасьнік мусіць стаяць на ўслугах як аднаго, так і другога. Калгаснага старшыню зусім не абходзіць, што сталінская канстытуцыя дэклямуе пра розныя свабоды ў СССР, што савецкая энцыкляпэдыя расьпісваецца аб вызваленым ад эксплятацыі сялянстве, што прапагандыстыя крычаць з трыбунаў аб «самай прагрэсыўнай у сьвеце краіне». Усё гэта папера, словы, прапагандовая шалуха, і тав. Прытуленка вельмі добра ведае аб гэтым. Таму ён у сваім пісьме ў рэдакцыю «Зьвязды» з 30-га ліпеня і зьвярнуўся з выступленьнем супраць асноўнага чалавечага права — свабоды працы. Калгасны старшыня — услужлівы пасланец партыі — з абурэньнем выступіў на балонах «Зьвязды» супраць таго, што падначаленыя яму калгасьнікі адважыліся йсьці шукаць хлеба вонках калгасу.

Справа, бачыце, у тым, што калгас «За Радзіму» нажыў сабе так званага «шэфа» ў форме будаўніча-мантажнае ўправы № 5 торфа-прадпрыемства «Ганчанскае». Суседзтва гэтага «шэфа» аказалася неўзабаве нядрэннай справай, бо калгасьнікі, ад якіх дзяржава забірае ўсе вынікі іхнае потнае працы, убачылі магчымасьць лепшага заработку ў свайго іншага хлебадаўцы — будаўніча-мантажнага ўпраўленьня. Здавалася-б у гэтым не павінна было-б быць ніякае «контррэвалюцыі» — проста людзі шукаюць магчымасьці зарабіць неяк.

Аднак партыя не па тое прыслала ў калгас старшыню Прытуленку. І старшыня ўзяўся за выконваньне свае місіі. Яшчэ ў мінулым годзе ён дабіўся таго, каб агульны сход калгасьнікаў вынес пастанову (папрабуй ня вынесьці!) прасіць вышэйшыя партыйныя арганізацыі забараніць будаўніча-мантажнаму ўпраўленьню й іншым арганізацыям, так сказаць, «умешвацца ў справы калгасу й самавольна браць на работу калгасьнікаў». Інакш кажучы, старшыня намагаўся забараніць калгасьнікам працаваць там, дзе лепш плацяць. Аднак калгасная бяда аказалася мацнейшая за вымушаную пастанову агульнага сходу. Калгасьнікі й надалей змушаны хадзіць «у людзі» шукаць сабе заработку. А тав. Прытуленка йзноў узяўся за сваю прыгоньніцкую справу. Ізноў пайшла «пісаць губэрня». Ізноў пачаліся абівацца парогі партыйных установаў і галасіцца на ўвесь сьвет аб самавольнасьці іншых арганізацыяў». Загаварыла йзноў прэса.

«Робіцца крыўдна ўсім калгасьнікам — пусьціў сьлязу ў «Зьвязьдзе» літасьцівы Прытуленка, — калі раніцай на работу ў Будаўніча-Мантажную ўправу № 5 ідуць дзесяткі здаровых людзей, а на работу ў калгас у васноўным выходзяць старыя, інваліды й маткі зь дзецьмі...»

Мы ўжо ня будзем гаварыць тут аб тэй бядзе, якая гоніць інвалідаў, старых і матак зь дзецьмі на калгасную паншчыну. Мы хочам ськіраваць тут пытаньне ў самае нутро савецкага дыктатарскага права й раструбленых працоўных свабодаў: хто-ж гэта чуў, каб у дваццатым стагодзьдзі чалавеку забаранялася йсьці шукаць хлеба для сябе й сваіх дзяцей! Бо хіба-ж не з дабра Прытуленкавыя калгасьнікі, пакідаючы сваіх жонак зь дзецьмі, старых і інвалідаў працаваць на калгасным полі, самі йдуць у найміты да іншых партыйных і савецкіх бюракратаў, каб там шукаць ратунку ад калгаснае галечы.

Аднак ні Прытуленка, ні ягоную апякунку, камуністычную партыю, сялянская бяда ня кусае. Ён верна выконвае сваю цівунскую ролю. Ён непахісна стаіць на старожы калгаснага прыгону, бо ён коштам калгасьнікаў накормлены, напоены й апрануты. Таму ён так заўзята й бароніць інтарэсы камуністычнае прыгоньніцкае дыктатуры, топчучы ўсялякую праўву свабоднага руху падсавецкага чалавека.

**А. Б.**

# Народы Кітаю

Кітай, як і ў мінулым Расею, звычайна лічаць аднародным паводля свайго насельніцтва, тэрыторыі, культуры й г. д. Гэткія ўяўленьні зьяўляюцца поўнасьцяй памылковымі.

Кітай, ці сучасная Кітайская Народная Рэспубліка, маючы ў сваім складзе 600 мільёнаў насельніцтва, не ўяўляе сабой адзінага кітайскага народу, а складаецца з больш чымся 70 розных народаў, якія поўнасьцяй розьняцца ад Кітайцаў сваімі мовамі, бытам, звычаямі, культурай, нацыянальнай вопраткай ды навет рэлігіяй і рэлігійнымі абрадамі.

Падобна да таго, як у СССР-Расеі пасьля Другое Сусьветнае вайны узмоцнена прапагаваўся й услаўляўся «вялікі расейскі народ», гэтак і ў Кітаі з прыходам да ўлады Мао-Цэ-Тунга ўслаўляўся «адзіны вялікі кітайскі народ». Але й на тэрыторыі вялізарнага Кітаю пачынаюць прабуджацца да свайго ўласнага жыцьця шмат якія някітайскія народы, расьце і ўзмацняецца нацыянальная сьведамасьць гэтых народаў, настойліва дамагаючыся свайго месца пад сонцам. З гэтымі нацыянальнымі дамаганьнямі й імкненьнямі даводзіцца лічыцца й камуністычнаму ўраду Кітаю. І зусім ня прыпадкова, што ў палавіне мінулага году на тэрыторыі цяперашняга Кітаю было створана й цяпер фармальна існуе 66 розных буйных аўтаномных вобласьцяў і колькі соцен аўтаномных акругаў. Гэты факт мае вялізарную важнасьць, і ён наглядна сьветчыць аб стала ўзрастаючым нацыянальным прабуджэньні народаў Кітаю, а таксама ён у корані разьбівае поўнасьцяй памылковыя пагляды заходніх людзей аб адзінстве Кітаю. І не далёкі час, калі на гістарычнай арэне зьявяцца шмат якія дасюль няведамыя Захаду народы, настойліва дамагаючыся свае нацыянальнае свабоды й дзяржаўнае незалежнасьці, як гэта мы назіраем у іншых частках Азіі й Афрыкі.

Мы самі ўжо зьяўляемся жывымі сьветкамі стварэньня незалежных дзяржаваў народаў Індакітаю, як Камбоджа, Ляос, В'етнам, народаў Інданэзіі ці Афрыкі — Судану, Лібэрыі, Паўдзённа-Заходняе Афрыканскае Вуніі й інш.

Як бачым, самому Пэкіну, як і Маскве, нацыянальнае прабуджэньне някітайскіх народаў прыносіць шмат турботаў, хавае ў сабе шмат небясьпекі. Недарма Пэкін прабуе ў выглядзе «брацкае дапамогі» гэтым народам узгадаваць з прадстаўнікоў някітайскіх народаў кадры верных Кітаю людзей у створаным нядаўна «Цэнтральным інстытуце нацыянальных мяншыняў», дзе цяпер вучыцца й працуе больш за 2 тысячы студэнтаў.

Ужо цяпер у Кітаі выдаюцца на 15 розных някітайскіх мовах газэты й кнігі. Іншыя някітайскія народы карыстаюцца пакульшто кітайскай мовай. Шмат якія зь іх зусім ня мелі свайго пісьма, якое было створана толькі нядаўна. Цяпер ідзе працэс устанаўленьня пісьменнасьці цэлага шэрагу іншых някітайскіх народаў.

Было-б памылкай думаць, што й па сваёй вонкавасьці народы цяперашняе Кітайскае Народнае Рэспублікі ўяўляюць сабой адзінства й аднастайнасьць. Яны выразна адрозьніваюцца адзін ад аднаго сваімі рысамі твару, сваёй своеасаблівай апрычонай культурай, сваім гістарычным мінулым, сваімі песьнямі, музыкай, танцамі, вопраткай і інш. Характэрна, што бальшыня някітайскіх народаў зусім не разумее кітайскае мовы, і іхным прадстаўніком даводзіцца яе старанна вывучаць. Дакладна таксама шмат якія някітайскія народы маюць розныя мовы, якія толькі цяпер вывучаюцца, а іхная пісьменнасьць ствараецца.

Прылучаны да Кітаю Тыбэт мае, як Каўказ, цэлы шэраг сваіх розных народаў, і ён таксама чужы Кітаю па сваёй прыродзе, культуры й мінуласьці, як Каўказ Расеі. Падобна да гэтага, зусім чужая Кітаю й вялізарная Манджурыя, якая мае сама ў сваім складзе шэраг паасобных нацыянальнасьцяў.

Міжвольна пры гэтым прыходзіць думка, якое недаравальна памылковае ўяўленьне мелі ўсе «знаўцы» кітайскага пытаньня ў ЗША, Вялікабрытаніі й на Захадзе аб Кітаі й ягоных народах, што яны ня толькі дапамаглі кітайскім камуністым узяць уладу ў Кітаі, але й захаваць «адзіны й недзялімы» Кітай і задаволіць апэтыты кітайскіх шавіністых далучэньнем да Кітаю да гэнага часу незалежных Манджурыі й Тыбэту, як і пакінуцьцем у складзе Кітаю Казахаў Усходняга Туркестану (Сіньцзяну)...

Цяпер Пэкін, паводля ягоных-жа дадзеных, распараджаецца 140 тысячамі кадравых працаўнікоў — прадстаўнікоў някітайскіх народаў, не залічаючы сюды Манджурцаў. Заданьне гэтых кадраў — шляхам розных палёгкаў у нацыянальных імкненьнях някітайскіх народаў усякім спосабам захаваць «адзінства» Кітаю, ухіліць адыход гэтых народаў ад Кітаю і іхнае выламленьне спад ягонае ўлады.

Спаміж асабліва вялікіх някітайскіх народаў цяпершняе Кітайскае Народнае Рэспублікі трэба адцеміць Манголаў, Уйгураў, Хуэйцаў, Казахаў, Джуанцаў, Джуанцзянцаў, Мяо-ўцаў, Яо-ўцаў, Носу-оўцаў, Гао-наньцаў, І-оўцаў, Тай-оўцаў, Буі-оўцаў і рознамоўных народаў Тыбэту.

Нам, прадстаўніком нерасейскіх народаў, якія змагаюцца за адраджэньне волі й дзяржаўнае незалежнасьці сваіх паняволеных маскоўска - бальшавіцкім імпэрыялізмам народаў, трэба ведаць і аб іншых народах, якія, прабуджаючы сваю нацыянальную сьведамасьць, пачынаюць змагацца за сваю волю, за сваё месца пад сонцам, аднак якіх дзеля неасьвядомленасьці й памылковых уяўленьняў яшчэ залічаюць, як нас у склад

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

**Кузьма Чорны**

# Лявон Бушмар

### ЧАСТКА ДРУГАЯ

**(Працяг)**

Бушмар стаяў, скруціўшы пальцы ў кішэнях жыкеткі.

— Каб ты павесяліўся сваёю воляй, дык не, ганяешся за нечым уночы недзе па полі, шукаеш нямаведама чаго, чаго ніколі ня губляў, чаго можа й ня было ніколі ў цябе...

—Ня было? Ня губляў?! Я згубіў!

— Што-ж ты гэтакае згубіў?

Яна сапраўды чакала ад яго адказу.

— Якраз ты можа й ня згубіў нічога, хоць і здаецца табе. Нічога ты ня згубіў. А калі што й згубіў, дык нехта знайшоў, так яно на дарозе не прапала. Можа той, што знайшоў, ня мог жыць безь яго, а цябе гэта толькі сапсавала навек. Што ты на чалавека не падобен. Што з табою і табе самому жыць на сьвеце цяжка...

Галас драпаў зь сянец у хатнія дзьверы. Адчыніў іх і ўскочыў у хату. Зь віскам кінуўся да гаспадара. Той з асалодаю ткнуў яму ў жывот наском бота. Галас заенчыў, ня ведаючы, што гэта раптам зрабілася, адскочыў. Малы прачнуўся, заплакаў. Зрабілася шумна ў хаце. Бушмар выкінуў Галаса на ганак. Пайшоў у кухню, лёг за сталом на голай вузенькай лаве і заснуў.

Галена раніцаю ня будзіла яго позна. Ціха хадзіла па кухні. Ён, калі прачнуўся, зь дзівам нейкім у вачох, як-бы не разумеючы нічога, глядзеў навокал. Як і заўсёды, спрадвеку, быў ён панурым, маўклівым.

— Ня думай ні пра што, — падыйшла да яго Галена.

І, не дачакаўшыся адказу:

— Можа навет да ўсіх прыстанеш жыць, мне хочацца ў людзі. І ты там зьменішся...

— Дык мне зьмяніцца трэба?

Яна адчула, што сказала ў гэтую хвіліну глупства. І паправілася, як магла:

— Гэта так я сказала. Так сабе... Кінь, ня думай ні пра што, давай жыць будзем, як людзі жывуць... Вазьмі сябе ў рукі, ня злуй, ня муч сябе і мяне ліха ведае якімі думкамі, словамі...

Яна палажыла яму локці на плечы, нагнулася да яго тварам. Ён сядзеў, цяпер гэтакі малы і слабы перад ёю. Яна стаяла над ім, глядзела яму ў твар.

Але ён не паддаўся. Ён перш за ўсё глыбока чуў мяжу між сабою і ўсімі, навет ёю. У іх нейкае там сваё жыцьцё, а ў яго сваё. Ён, дзеля прыклёпу, пагладзіў яе па галаве і падняўся. Нехаця ўзяўся ён за работу на дварэ, чуючы сябе чужым усяму і ўсім тут. Ён і ня спробаваў саўладаць з сабою. Нашто гэта патрэбна чалавеку! Ніколі гэтага ня было, не радзілася гэта разам зь ім на сьвет!

### VII

І Андрэй бачыў цеснату навокал сябе, але ў сабе самым чуў волю.

Як тады, пасьля неспадзяванае гаворкі з Бушмарам, увайшоў ён у хату, чамусьці, як ніколі раней, ахваціла яго адчуваньне цеснаты тут. Можа гэтая гаворка абудзіла ў ім парываньні, што заўсёды жылі ў ім.

Яго і Аміліны дзеці спалі. Аміля больш не сьпявала калыханкі. Яна і жонка яго шылі штосьці, нагінаючыся над сталом да лямпы. Пахла ў хаце парнасьцю, тхнула запечным пылам. Ён заўважыў: за трамам пылела праз доўгія ўжо гады колькі кніг, з тых часоў, як яшчэ яму было калі больш цікавіцца імі, калі яшчэ з арміі некаторыя зь іх прынёс ён. А цяпер гаспадарскі клопат — адны яго мужчынскія рукі ў хаце — забіваў у ім увесь час.

Ён падышоў да стала, глянуў у жончын твар. Ён часта спробаваў уявіць яе сабе ранейшаю, маладою. І ня мог. Даўно ўжо яна замужам за ім. Твар яе даўно пачаў блекнуць і старэць. І толькі рабіўся маладым, дзявочым, калі радасьць якая ажыўляла яго. Тады вочы яе сьвяціліся агнямі, разганялася з твару надакучлівая і прыкрая непазбыўнасьцю сваёю заклапочанасьць.

Калісьці ў зусім яшчэ маладыя гады, калі ён быў удалым цымбалістым, яна была сарамяжаю і ціхаю. Першыя спатканьні яшчэ й цяпер хвалявалі яго. Колькі разоў ён, жывучы зь ёю, успамінаў ёй той час. Яна глядзела ў вадно месца, кудысьці скрозь усё, што было перад вачыма, далей за ўсё, і надоўга клала на твар лятуценную ўсьмешку...

— Памятаеш, як ты да мяне бегла тады праз поплаў, уцякаючы ад канпані?

Яна пераводзіла вочы на яго, не зганяючы з твару тае прывабнае заўсёды дзеля яго ўсьмешкі.

— А я крычаў табе — «хутчэй, хутчэй, дагоняць!» Памятаеш?

Можа ад яго цяперашняга пільнага зірку яна ўзьнімае на яго вочы. Штосьці гэтакае нечаканае ўзьбягае на яе думкі, робіць няцікаваю работу. Яна навет крыху адкідае ад сябе сфастрыгаваную з палатном кудзелю і апускае вочы на стол. Думае. Настрой гэты перадаецца і Амілі. Утраіх яны маўчаць. Думкі, ці то лятуценьні, пануюць у іх. Думкі — як бяздумнасьць. Гэтак доўга. Над дзьвярыма ледзьве жыве няроўным стукам сваім старасьвецкі, можа дзедаўскі яшчэ, гадзіньнік. Раптам пачынае плакаць меншы Амілін сын. Аміля кідаецца да калыскі закалыхваць яго. Ізноў калыханка льлецца за вокны, а там яе падхватваюць дубы і пераносяць у сваю гушчырню. Там яна тоне ў роўнай песьні ветру. Вецер ідзе ў сваю дарогу.

Даўнейшыя Андрэевы цымбалы вісяць у каморы насупроць вакенца бяз шкла. Ветру, калі ён з гэтага боку, латва кажны раз казлытаць запыленыя струны іх. Цымбалы й цяпер зьвіняць ціхім звонам.

— Цымбалы зьвіняць. — гаворыць Андрэю жонка, лятуценна гледзячы ў вершаліны дубоў над страхою.

Яны выходзяць з хаты, у ясную ноч. Восень сьпіць у бляску зямлі пад срэбрам неба. Дубы гудуць.

Удваіх яны стаяць на вуліцы. Нічога ня хочацца гаварыць, а толькі думаць бяздум'ем.

— Ліхі малы, не дае Амілі спакою ніколі, — гаворыць яна, азіраючыся на хату.

— Тут кагадзе быў Бушмар, я гаварыў яму, а ён слухаў, — гаворыць ён

— Ну? — дзівіцца яна.

Зноў яны маўчаць. У хаце сьціхае калыханка. Аміля выбягае ў ноч. Утраіх яны стаяць.

— Цымбалы зьвіняць, — прыслухоўваецца Аміля.

— Няхай адно хлопцы падростаюць, — сьмяецца Андрэй.

Ноч.

### VIII

Вінцэнты ліпеў, як на пакуце. Цяпер яго ня мучыў ні смутак, ні якое-небудзь моцнае вельмі жаданьне, а была толькі злосьць. Старэйшы сын у пачатку зімы зусім выбраўся з хаты, чуць навет ня сцураўся бацькі за яго дурную ўпартасьць. Сам застаўся ў падсуседзях, хат праз чатыры ад бацькі. Навясну палавіна вёскі ішла на знос, усё перараблялася, зьменьвалася. Ён не адступіўся ад усіх. Колькі гаспадароў засталіся адшчапенцамі, і Вінцэнты зь імі. Балазе поле іхнае было ў самым кутку, за дубняком, навет на водшыбе крыху. Меншы сын Вінцэнтага тае зімы ажаніўся і ўпарта трымаўся бацькі.

Кутох мовы

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

**(Працяг з папярэдніх нумароў)**

### Да націску

Маем прыкметнік **жыцьцявы** (націск на -вы, на канчатку), зн. ёсьць **жыцьцявога, жыцьцявому** і г. д. Пачалі ўжываць «жыцьцёвы», (з націскам на другім складзе) абмыльна, пад уплывам польскім з тае прычыны, што інтэлігенцыі ня ўсюдых гэтае слова было ведамнае ў вымове. Тымчасам гэта слова народнае і мае націск на канчатку. Прыклад: Меў клопаты жыцьцявыя. Рэч. (Пяткевіч: Рэчыцкае Палесьсе, II, 264).

«Над маёй галавой будзе муха **лятаць»** — русыцызм, паблр. — **лётаць.**

**Памачнік** мае заўсёды націск на канцу — памачніка і г. д.

«Ці ўсіх пералічыць **растраляных»** — русыцызм, паблр. **застрэліць, застрэлены** (націск на -рэ-).

«Гэта быў не **цалкам** адкрыты выклік». Паблр. **цалком.**

### Некаторыя хормы

«Аб Бэрыі». Мае быць: **Аб Бэрыю,** бо ўсе мужчынскія **асобавыя** спакменьнікі канчаюцца ў мясцовым склоне адз. ліку на -у, -ю.

«У двух **радках** ляжыць 8 сярнічкаў». Мае быць **радкох,** бо ўсе спакменьнікі мужчынскага й ніякага роду канчаюцца ў мясцовым скл. мн. л. на -ох, калі націск на канчатку.

З тае-ж прычыны будзе ў **вачох,** а калі маецца наўвеце вочы аднаго чалавека, дык у **ваччу.**

«Нястача вітамінаў вядзець да аслабленьня **арганізма».** І побач: «Найбольшае значэньне для **арганізму** мае вітамін «с». Першая хорма — русыцызм, другая — беларуская.

«Нястача карацінy ў варганізьме паніжае супраціўленьне **заразным захворваньням».** Маем **хварэць, захварэць,** дык будзе **захварэньне — ліпучым захварэньням. Ліпучы** ў значэньню «заразный», а **ліпучка** «заразная хвароба» записаныя ў Дзьвінску, Пагулянцы, Вышках, Прыдруйску, Краслаўцы, Дагдах, Асумпсчыне (усе Дзьвінскага пав.); Посіні, Сіняй, Корсаўцы (усе Люцынскага пав.) і ў Негневічах Навагр. п.

«Трымя» — русыцызм, паблр. — двума, ж. дзьвюма, трыма, чатырма, пяцьма, сяма, асьма і г. д., заўсёды **а** на канцу.

**«Бодка», а ня «пункт».** Дагэтуль у нашым друку ўжываецца чужое слова «пункт». Тым-жа часам маем сваё добрае слова **бодка,** здрабн. **бодачка.** Прыклады: На бязьмене ня відаць бодак. Ст. Набрала сабе на андарак у бодачкі. Ст. Бодкі на бязьмене або матар'яле такія самыя, як і бодкі ў пісаньню; дзеля таго ў граматыцы і ўсюдых, дзе ўжываецца «пункт», мае ўжывацца «бодка». Зацемлю, што слова таго-ж кораня «бод» ужываецца і ў чэскай мове, прыкладам на емінных лістох, што выдаваліся ў часе вайны, было адзначана колькі аны маюць «боду» (бодаў — пуктаў).

**«Чужнік, чужанін»,** а ня **«чужынец».** Чэскае «цізінэц» пераанялі галіцкія Украінцы, прытарнаваўшы яго да свае фанэтыкі, з чаго вышла «чужынец», а нашы пераанялі ад Украінцаў. Як я ўжо адзначыў вышэй, не адно тыя барбарызмы, што чужыя сваёй фонэтыкаю або суфіксам, але й тыя, што гэтых пазнакаў ня маюць, але проста не ўвайшлі ў склад якоесь мовы. Гэта датыкаецца слова «чужынец» і зараз ніжэй разгледжаных «працаўнік» і «працавіты». Дзеля таго, замест «чужынец» трэба ўжываць свае словы **чужнік,** жанчына **чужніца, чужанін,** ж. **чужанка.** Ар. **Чужнік** запісана ў Ар. і Віцебшчыне. **Чужнік, -ка** — чужой человек. Даўгое Беш. (Ксл.). Чужнік можа трапіцца. Тм. Прыметнік да «чужнік» будзе звычайна «чужы» і рэдка «чужніцкі». Можа быць прыметнік і «чужынскі» (ад «чужына». Ведама, будуць таксама прыметнікі **чужнікоў, чужнічын** «належачы да чужніка, чужніцы». Ёсьць слова й **чужаземец** —иностранец. Бешанкавічы (Ксл.). На парніку чужаземец нейкі прыехаў. Тм. Прыметнік **чужаземны** — иностранный. Сукрэмна Сян. (Ксл.). Гэта чужаземная машына. Тм.

**«Працавень, -ўня, працаўлівы»,** а не **«працаўнік, працавіты».** З тых-жа прычынаў, што «чужынец», і «працаўнік, працавіты» не беларускія словы (пераанятыя з польскае мовы). Замест першага маем **працавень** (націск на -е-), запісанае ў Смаргонях Аш., у Лагойскім раёне, у Халопенічах Барс. і ў Семежаве Сц. Замест другога ёсьць **працаўлівы** (націск на -лі-), запісанае, між іншага, у Кушлянах Аш. Ведама, калі ёсьць «працавень», дык будзе і **супрацавень.** А дзеля абазначэньня працы зь кімсь, супольнай працы, маем **супраца.**

**Добра, што ўжываюць** наступныя словы.

Ад якогась часу газэта «Беларус» ужывае добрыя характарыстычныя словы беларускія **гаспадарства, гаспадарствавы.**

Добра, што ўжываюць **дзейны, дзейна** ў значэньню «актыўны, актыўна».

Добра, што ўжывае поэта Р. Крушына гэткія (падчыркненыя тут) словы: Лірыка зь вялікага **места.** Можа боль ад **вытню** праніка, ад **крутні** верацяна. Яно — чароўнае, шалёнае, **трымцелае.** Усё ў «Б», Но. 24/254.

Добра хтось пачаў ужываць у «Б»: «Пропасьць між Захадам і Ўсходам на **толькі** глыбокая, што ніякія гутаркі ня зьліквідуюць яе».

**Сьвяты Паўла (-а** на канцу) — добрая хорма, ужытая ў «Слове Божым».

**Зварочую ўвагу на наступныя добрыя й патрэбныя словы.**

**Абярняся** (націск на -ня-) адказуе рас. «то и дело», пол. «раз по раз». Ар. Абярняся ўходзяць і выходзяць, чыста вышвіндалі хату. Ар.

**Абходка** — первоочередные надобности, оборот. Б. Летцы Куз. (Ксл.). Няма граша на абходку, хоць лажыся. Тл. (Там-жа).

**аканаваць,** -ную -обречь. Аканаваў прадаць цяліцу на падачкі. Стрэлкі Беш. (Ксл.). **аканаваны** — обреченный.

зачы — заочно, за глаза. Нсл.; Копцэвічы Чаш. (Ксл.). Зачы ён сусім накш кажа. Тл. Зачы і ў вочы скажу. Нсл. 193.

**прыклёп, -у** — пол. «прэтэкст», рас. «прэдлог». Дуброва Ск.; Новы Двор Ск. Абы прыклёп быў. Дуброваск. Гэтае-ж слова, адно з націскам на «пры-», падаець Федароўскі з Баўкавыскага пав. з тым самым значэньням.

**сьпех, -у** — рас. успех. Нсл. 611. Сьпеху няма ў рабоце. Тм. Дай Божа табе сьпех там, куды едзеш. Нсл.

**Фразы, даслоўна неперакладаныя, і прыказкі.**

**Голад — ня цётка.** Ар. Знач., галодны ўсё зьесьць.

**Казаў той** — рас. так сказать. Іг. Жывое, Богам створанае характво, казаў **той.** Дз. Д. 170.

**Патрэбны, як сабаку пятая нага.** Ар.

**Плакаць наўзрыд** — рас. рыдать. Ар. Нешта набухне, як бель і як скон, Нешта заплача наўзрыд і бясьсьлёзна. Таўлай (Б. Ускалось, 1954, Но. 1—4, 37).

**Пушчаць у ваддаль.** Ар. — адвалакаць, рас. «медлить», пол. «звлекаць»

**Сабакамі падшыты** — (вельмі. Гсл.) хітры (і немаральны — Я. С.) Нсл. Гсл. Суседа нашага хваляць, ды ён сабакамі падшыты. Нсл.

**Каза не дарма ваўку скача.** Прык. Нсл.

**Што табе за дзела?** — рас. «Какое тебе дело?» Ар.

**(Далей будзе)**

**Я. Станкевіч**

# Народы Кітаю

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

«адзінае й недзялімае» Расеі, у склад «адзінага й недзялімага» Кітаю.

Ведаючы свае собскія нацыянальныя праблемы, усьведамляючы поўнае й неад'емнае права нашых народаў на сваю собскую нацыянальную свабоду й незалежнасьць, мы павінны не забывацца й аб тых народах, якія й да гэтага часу змушаны быць у складзе чужое дзяржавы, пад чужым імём, але цяпер прабуджаюцца да свайго нацыянальнага жыцьця, за якое ўжо пачнуць так змагацца, як змагаемся мы цяпер. Пазнаючы імкненьні гэтых народаў, мы разам з тым будзем наглядна разьбіваць памылковыя пагляды Захаду аб нашых уласных народах, навокал якіх старанна сотні год плялося павуціньне маскоўскае дэзынфармацыі аб «адзінай і недзялімай» Расеі.

**В. Глазкоў**

# Беларусы, украінскія імпэрыялістыя, варэньнікі і ячменная каша

Калі аб сваім бліжэйшым суседу і пападаецца часам памылковая інфармацыя, дык, паводля прынятых усімі асноў журналістычнай этыкі, даецца пакрыўджанаму баку магчымасьць зьмясьціць запярэчаньне ў газэце, або сама рэдакцыя дае такое выясненьне ад сябе. Ня тычыцца, аказваецца, гэта ўсё паноў рэдактароў «Гоміну Украіны» (бандэраўцы), калі там зьмяшчаюць чарговы пашквіль на беларускі народ. Так у № 8 ГУ зьявіўся артыкул «Палесьсе», які ўмысна, сьведама прабуе ачарніць беларускі вызвольны рух на Палесьсі, поўны нячуваных дурніц аб беларускай літаратуры, этнаграфіі і. гд. Навет пішучы аб афрыканскіх бушменах, чалавек сярэдняй культуры наўрад ці здолеў-бы нагарадзіць такую кучу недарэчнасьцяў, як рэдактары ўкраінскага часапісу аб сваіх паўночных «братох». Трэба быць або поўным анальфабэтам, або найгоршага крою «чорнасоценцам», зь іхнымі мэтадамі ачарненьня і хвальшаваньня праўды аб нерасейскіх народах, каб напісаць нешта падобнае. Але пяройдзем да самога артыкулу.

Няпраўдай ёсьць аўтарытатыўнае цьверджаньне ГУ, што беларускі пісьменьнік Чарот напісаў аповесьць «У глушы Палесься» (правільна: «У глыбі Палесься»). М. Чарот — беларускі паэта аповесьці гэтай ня пісаў і, апрача аповесьці-сцэнарыя «Сьвінапас» (пазьней фільм «Песьня аб шчасьці»), нічога прозай наагул ня пісаў.

Няпраўда, што Чарот — толькі псэўдонім беларускага пісьменьніка Янкі Купалы. Янка Купала — найвялікшы беларускі клясык нічога супольнага з псэўдонімам гэткім ня меў. Ня пісаў Я. Купала і аповесьці «У глушы Палесься», як падшываецца яму газэткай ГУ. Аўтарам аповесьці «У глыбі Палесься», як другой часткі трылёгіі (І — «У палескай глушы» і ІІІ — «На ростанях») ёсьць пісьменьнік Якуб Колас, які быў некаторы час настаўнікам на Палесьсі, а сяньня жыве ў Менску. Цьверджаньні ГУ, што няма беларускіх пісьменьнікаў, якія паходзяць з Палесься — абсалютная няпраўда. Вось толькі частачка імёнаў: М. Дзяргач зь Пінску, зборнік «Палескія імпрэсыі». П. Пястрак зь Берасьцейшчыны, раман «Сустрэнімся на барыкадах» і зборнік апавяданьняў аб Палесьсі. М. Засім зь Берасьцейшчыны, зборнікі вершаў «Ад усяго сэрца» і «Вершы» аб прыродзе і людзях Палесься. С. Хмара зь Пінску — вязанка палескіх апавяданьняў, часткава нат у палескім дыялекце. А. Бачыла зь Пінску, зборнік вершаў аб прыродзе Палесься. А. Корбут з Лунінца, вершы аб Палесьсі. І. Кавыл з Лунінца, вершы аб Палесьсі. М. Шавель зь Берасьця, зборнік вершаў аб Палесьсі. Б. Бужанскі зь Берасьця, літаратурны крытык. В. Станкевіч-Палескі з Мазыра, п'есы «Што пасееш, то пажнеш» і «З таго сьвету» аб людзях і падзеях на Палесьсі. К. Кірэенка з Тураўшчыны, зборнікі вершаў і шмат іншых.

Кампазытары Беларусы-паляшукі: Рыгор Шырма зь Берасьцейшчыны, цяпер кіраўнік Беларускай Дзяржаўнай Капэлі ў Менску, Самадзейныя кампазытары: Адам Чопчыц з Лунінеччыны, Іван Мацін зь Берасьця ды інш.

Артыстыя: Ганна Аўдзеенка з Мазыршчыны, артыстка Бел. Дз. Народнага Хору, Валя Пальвінская і Марыя Інацюк з Кобрыншчыны, салісткі Бел. Дзярж. Вялікага Тэатру Опэры і Балету; Галя Дзімкова і Ганна Міцура зь Піншчыны, пяюньні Бел. Дз. Народнага Хору і шмат, шмат інш.

Навет цяпер, пад крывавай маскоўска-бальшавіцкай акупацыяй у Берасьці, Пінску ды Лунінцу існуюць мясцовыя беларускія літаратурныя аб'яднаньні. Ня гледзячы на безаглядную русыфікацыйную акцыю акупантаў, яны змушаныя выдаваць на беларускай мове, праўда, з мэтаю лепшага адурачваньня і закабаленьня паляшукоў-Беларусаў, дзесяткі сваіх газэтаў на Палесьсі: Кобрын — «Праца», Быцень — «Новае Жыцьцё», Пружаны — «Чырвоны Сьцяг», Целяханы — «Перамога», Ганцэвічы — «Сялянская Праўда», Маларыта — «Сьцяг Перамогі», Лагішын — «Ленінец», Пінск — «Палеская Праўда», Мазыр — «Савецкае Палесьсе», Даманавічы — «Калгасная Праўда», Давід-Гарадок — «Чырвоны Сьцяг», Леніна — «Сталінец», Янаў — «Сталінскі Шлях», Мікашэвічы — «Сталінец», Лунінец — «Авангард», Антопаль — «Перамога».

Няпраўда, што Беларусы, апрача аповесьці «У глушы Палесься» (падчырківаем, што такой аповесьці агулам няма, але ёсьць «У глыбі Палесься», як паказана вышэй), ня маюць іншых літаратурных твораў аб Палесьсі. Амаль кажны беларускі пісьменьнік мае вялікшыя ці меншыя творы аб Палесьсі, пачынаючы ад беларускіх клясыкаў XIX стагодзьдзя. В. Дунін-Марцінкевіч — «Пінская Шляхта», Янка Купала — «Над ракой Арэсай», Янка Маўр — «Палескія Рабінзоны», і інш, Раман Сабаленка — паэма «На Палесьсі», Іван Мележ — «На Прыпяці», К. Цьвірка — «На балоце», П. Броўка — «На Палесьсі гоман», М. Танк — паэма «Нябаба», Ул. Краўчанка — «Палесьсе» — зборнік апавяданьняў, паданыя ўжо вышэй паэты ды шмат іншых.

Паза тым беларускі кампазытар А. Цікоцкі напісаў опэру «Дзяўчына з Палесься», кампазытар А. Багатыроў — опэру «У пушчах Палесься», Залатароў — беларускі балет «Князь возера», У. Алоўнікаў — сюіту «На Палесьсі» ігд.

Няпраўда, што Беларусы ня маюць сваіх дзеячоў аўтахтонаў Палесься. Для прыкладу: І. Грэцкі — пасол ад Беларусаў у былым польскім сойме — паляшук зь Берасьцейшчыны, Агата Невядомская — кіраўніца Пінскае акругі Таварыства Беларускае Школы з Лагішына. Алеся Верамейчык — дзеячка беларускага вызвольнага руху, правадырка моладзі Палесься з Лунінца. С. Шчарбук — кіраўнік сакратарыяту «Змаганьня» на Бельшчыну і Берасьцейшчыну зь Піншчыны. Я. Пястрак — кіраўнік сакратарыяту «Змаганьня» на Пружаншчыну і Косаўшчыну зь Берасьцейшчыны. С. Хмара — кіраўнік соймавага сакратарыяту «Змаганьня» на Палескае ваяводзтва ў Пінску. І. Па-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

---

Вінцэнты больш не патыкаў носа на Бушмараў хутар. Ён дрыжаў аднаго: каб Галена нічога не сказала Бушмару пра яго. Бушмар сіберны чалавек, ён можа, засьцігнуўшы дзе, адным махам рукі адабраць навек здароўе, або й зусім душу вынясць. Адно толькі цешыла тут і заспакойвала Вінцэнтага: чуткі йшлі па ўсім наваколькі, што ў Бушмара ў хаце нелады. Калатні няма (Галена не такая жанчына, каб дапусьціцца да гэтакае сараматы), але Бушмар зьнявідзеў яе. Хоць можа й не зьнявідзеў, ня можа Бушмар Галены зьнявідзець, але-ж і ня будзе яна вельмі любаю яму. Бо яна толькі падабалася яму, а сама далёкая ад яго. Яна ўжо рвецца адтуль, ад яго, цяжкага чалавека. Яна ў людзі рвецца. Ён сам чуе далёкасьць сваю да яе, гэтак як і да ўсіх. З таго вар'яцкага вечару, як толькі зьявіўся ён дадому, ня ўспала жыцьцё на дабро, дык гэтак і далей пайшло. Можа тут і не вінаваты ніхто ў іх . . .

Вінцэнты гоніць ад сябе сваю трывогу.

Але Бушмар раз такі засьцігнуў Вінцэнтага.

Хмурны дзень. Сьнег сінее паўзь лес. Вінцэнты выбіраецца на дарогу зь вязкаю веццця. Валенкі яго мокрыя, нагамі ён ледзьве грабе па вільготным сьнезе.

— Стой, Вінцэнты, — гукнуў Бушмар.

Гэта было зьнячэўку. Вінцэнты здрыгануўся. Бушмар ехаў паўзь лес аднекуль; з-за лясное завіліны выехаў раптоўна. Вінцэнты спыняецца і дрыжыць.

— Адкуль гэта едзеш, васпане? — выгаворвае ён.

— От я табе зараз скажу, адкуль я еду, — чуе ён Бушмараў адказ.

Дык ён пачынае падлагоджвацца пад Бушмара гаворкаю:

— Гэта я дзеля разрыўкі. Па веццце пайшоў. Ты думаеш, мяне з хаты вельмі выпраўляюць гэта? Барані Божа. На сына й на нявестку я не паскарджуся. Гэта я сам дзеля разрыўкі. Дзеля разрыўкі . . .

Гаворыць слабым, роспачным голасам і глядзіць, як Бушмар злазіць з вазка і прывязвае свайго стаеньніка да прыдарожнага дубка.

— Дзеля разрыўкі гэта я . . .

— От тут табе зараз будзе й разрыўка.

Гаворыць Бушмар і зь д'ябальскаю ўсьмешкаю ідзе да яго. Барада яго зрабілася няроўнаю ад таго, што сьціснуты зубы. Бровы ссунуліся і зьехалі ўніз так, што аж закрылі вочы. Але вочы гэтыя ядуць Вінцэнтага. Ён чуе гэта яшчэ здалёк і спускае на сьнег веццце. Бушмар не сьпяшаючы бярэ яго за штрыфы вопраткі.

— Гва-а-алт! . . . Васпане, што робіш!

— Пачакай, не гвалтуй.

Яны так і стаяць, упіўшыся адзін у ваднаго вачыма — адзін глядзіць, як агнём смаліць, другі міргае і пускае паабапал носа дзьве сьлязіны.

— Дык цябе сын ня выпраўляе па веццце?

— Барані Божа, тэта я сам дзеля свае разрыўкі.

— Добры-ж твой сын. Гэта гэты, што ажаніўся нядаўна?

— Але, гэты самы.

— Каго-ж ён узяў?

— Узяў, далібог . . .

— Чаму-ж гэта ён мае жонкі ня ўзяў?

Вінцэнты прысядае каленьмі на сьнег, і галава яго, як вялая, зьвешваецца набок. Бушмар арудуе не сьпяшаючы. Ён як трымаў за штрыфлі Вінцэнтага, так нясе яго перад сабою і з размаху кідае аб дрэва.

— Гык! — абазваўся адно Вінцэнты і ўткнуўся плячуком у сьнег. Шапка з галавы яго зьехала, і галава лягла на яе. Хітры чарвяк папаўся ў рукі бязьлітаснаму гаду.

Бушмар павар'яцку глянуў на Вінцэнтага і, усё таксама не сьпяшаючы, сеў на воз і сьвіснуў пугаю.

### IX

Бушмара ўзяў одум тады, калі ён ужо ўзьехаў на свой двор. Тут ён затрапятаўся. «Забіў ці так адно прыглушыў, але гатова пачацца ўсё як пасьля таго райвыканкомаўца». І як ні найходзіла цяпер на яго часта абыякавасьць да ўсяго, у гэтую вострую хвіліну ён мацней, як заўсёды, цяпер пачуў прынаднасьць і водыру гэтага сіняга сьнегу, і гэтага дубовага шуму, і смольнага паху зь зімовага лесу.

Бушмар кінуўся да стайні, выпраг каня і вымасьціў вазок у далёкую дарогу. Зь вялікаю нецярплівасьцю чакаў ён вечара. Быў сам ня свой, выбягаў з хаты глядзець, ці ня меркне над лясамі дзень, колькі разоў падсыпаў каню перад дарогаю аўса . . .

Я паеду да брата, — сказаў ён Галене.

— Чаго гэтак раптоўна?

— Зьеду на нейкі час.

— Чаго? — устрывожылася яна.

— Трэба мне зьехаць адсюль.

Яна застыла перад ім у маўклівым чаканьні.

— Я ці не забіў гэта адно Вінцэнтага.

— Калі?

— От цяпер.

— Дзе?!

— Ай!

Ён адмахнуўся ад яе рукою, як ад якое назолы, сярдзіта пранізаў яе зіркам.

— Ты заўсёды сам сабе бяды наробіш. Сам заўсёды няшчасьце на сваю галаву . . .

— Маўчы! — грукнуў ён страшным голасам. — Празь цябе гэта ўсё!

— Празь мяне?!

— А праз каго-ж! Ты мне калі прызналася, што ён даходжваў сюды ці прысылаў свайго сына? Што тут насупраць мяне ўсё падстройвалася . . .

Галена стаяла белая, як палатно.

— Калі ты мне прызналася, што ён цябе падгаворваў кінуць мяне? Адразу не сказала, як толькі прышоў, а ў паўзімы прызналася! . . .

— Ня было ў чым мне прызнавацца.

— Мусібыць-жа было, калі ня прызнавалася, калі адразу не гаварыла!

— Як-жа я магла гаварыць тады пра такія рэчы, калі ты якім быў тады, у той першы вечар?

— Маўчы, у маёй галаве цяпер увесь сьвет пераварочваецца. Мяне за сэрца смокча. Маўчы, калі хочаш, бо зараз і цябе заб'ю!

— Мяне? Завошта?!

— За ўсё!

— Нашто ты кідаешся гэтакімі словамі?

— Ай!

Ён страсянуў рукамі і выбег з хаты. Пасьля вярнуўся яшчэ, падбег да калыскі, паглядзеў на сына. І адтуль рвануўся зараз-жа, як-бы ён зрабіў які нядобры гэта ўчынак.

Сінеў вечар. Бушмар запрагаў каня. Галена на ганку плакала. Бушмар ня бачыў гэтага. Ён шпарка пагнаў каня ў дарогу. За лесам, дзе павінен быў ляжаць забіты Вінцэнты, Бушмар пусьціў каня паволі. Ён азірнуўся. Нікога нідзе ня было відаць. Змрок гусьціўся ў кустох і пад дрэвамі. Ён зьвярнуў пад тое месца і ўглядзеўся. Вінцентага ня было. Дэіўны след, цэлая дарога раўчуком цяглася напрамік цераз поле да сьцежкі ў вёску.

— Жывы, — мармынуў Бушмар, — папоўз дадому.

Яму ня стала ад гэтага ні цяжэй, ні лягчэй. Але ён пасьмялеў. Сьцёбнуў каня і паімчаўся цераз вёску. У Вінцэнтавай хаце, як і ўва ўсіх, ня было ні вялікага сьвятла, ні руху.

— Каб памёр, дык варушыліся-б каля яго, — сказаў пад нос сабе Бушмар і праімчаўся вёскаю. Галас дагнаў яго ў чыстым полі. Ён прагнаў сабаку дадому. Каня гнаў так, як-бы пагоня насьцігала яго.

**(Далей будзе)**

# Беларусы, украінскія імпэрыялістыя,...

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

трубейка — кіраўнік Беларускае С.-Р. Грамады ў Давід-Гарадоччыне. Іголка — сакратар Грамады ў Пінску. Васілеўскі — дырэктар Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Пінску і арганізатар 80 беларускіх школаў у Піншчыне ды інш.

У Пінску мясьціўся штаб беларускай антыбальшавіцкай партызанскай арганізацыі «Зялёны Дуб» (палкоўнік Адамовіч), у Пінску склаўся беларускі ўрад Балаховіча-Астроўскага, які зьліквідавалі Палякі. У Берасьці стаяў штаб Беларускага войска ген. Булак-Балаховіча, якое змагалася з бальшавікамі і складалася ў бальшыні зь Беларусаў-паляшукоў. На Піншчыне і Берасьцейшчыне ў 1921—1926 гг. дзейнічалі дзесяткі аддзелаў беларускай палескай антыпольскай партызанкі.

Няпраўда, што паляшукі цэнтральнага Палесься, як цьвердзіць ГУ, гавораць, як «украінец з-пад Кіева».

Няпраўда, што паляшукі ня вымаўляюць у кароткага (ў). Усе паляшукі выгаварваюць гэтую беларускую апрычоную літару ў. Яшчэ адна асаблівасьць палескага дыялекту беларускае мовы: канчатак -са замест -ся (мьюса, б'юса). Гэтая асаблівасьць мовы ахапляе ня толькі Палесьсе, але таксама Гарадзеншчыну і Беласточчыну. Да таго, Украінцы-паляшукі паўдзённай часткі Палесься завуць сябе не паляшукамі, але палешчукамі, праз **щ** і гэта лепшая мяжа ўкраінскае часткі.

Няпраўда, што паляшукі-Беларусы ня носяць вышываных кашуляў («крайкі»), не сьвяткуюць традыцыйна Вялікадня, не пяюць вясьнянак на вуліцах і пад. Няпраўда, што іскрыпка ўжываная на Палесьсі — не беларускі нацыянальны інструмант. Усё гэта Беларусы маюць і ўжываюць. Навет бальшавікі, каб давесьці «народнасьць» свае акупанцкае ўлады над беларускім народам, усадзілі на сьцяг БССР беларускую вышыванку. Так гэта ўсё папулярна ў Беларусаў!

Няпраўда, што паляшукі ядуць варэньнікі. Каб мець варэньнікі, трэ мець пшаніцу, а паляшук яе нідзе ня сееў, бо яна не ўдавалася на палескіх пяскох і багнах. Купляць муку ў краме, каб рабіць варэньнікі, паляшук ня меў сяродкаў і нат самога слова «варэнік» ня ведае, хоць называе сваю лазовую торбу «варэня».

Проса еў паляшук не таму, што ня любіў ячменнай кашы, як вынаходзіць ГУ, але і толькі таму, што ячмень на балотах вымярзаў, а проса добра радзіла. Затое аўтары «навуковых артыкулаў» ГУ нічога ня ўспомнілі аб праўдзівых нацыянальных стравах паляшукоў: традыцыйная «юшка з уюнамі», «каплун», «ікранікі», «макач», «маньнік» ды інш., бо аб гэтым яны нічога ня ведаюць, там ніколі ня быўшы, і расьпісваюць дурныя байкі аб паляшуках, выдуманыя за рэдакцыйнымі сталамі ў Торонто.

Агідным паклёнам на беларускі вызвольны рух на Палесьсі зьяўляецца цьверджаньне ГУ, што беларусам Палякі дазвалялі праводзіць на Палесьсі нацыянальную прапаганду. Затое праўда, што за беларускую нацыянальна-вызвольную працу на Палесьсі Беларусамі былі перапоўненыя турмы і Картуз-Бяроза. Беларусаў стралялі на вуліцах, вешалі на шыбеніцах, каталі да сьмерці ў дэфэнзывах. Беларускія палітычныя працэсы ў Пінску (працэс С. Хмары і сяброў за кіраўніцтва Беларускай арганізацыяй «Змаганьне» на Палесьсі, школьная акцыя і беларускія каапэратывы; працэс А. Грынька — Невядомскай, зноў С. Хмары за ТБШ, Васілеўскага — Беларускі Каапэратыўны Банк, ваенна-палявы суд у Берасьці над беларускімі партызанамі (Струк і інш.) — пяць павешаных і шмат іншых), найлепей кажуць праўду. Затое, праўда, што пры панаваньні Палякаў ня было ніводнага ўкраінскага палітычнага працэсу ў Палескім ваяводзтве, бо Украінцаў там ня было і няма.

Паляшукі-Беларусы і тут, на чужыне. у Торонто, Монтрэалі, Кліўленьдзе, Чыкаго, Дэтройце, Нью-Ёрку складаюць вялікую частку сяброў беларускіх нацыянальных арганізацыяў і беларускіх парахвіяў. Яны выдаюць нат адумыслова альманах «Палесьсе» ў Монтрэалі (Канада).

Так выглядае праўда, якую рэдактары «Гоміну Украіны» прабавалі падмяніць сваімі байкамі, якімі яны, на вялікі жаль, кормяць сваіх даверлівых чытачоў.

**С. Коўб**

# Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь»

Ад 10 до 16 жніўня сёлета адбываўся пяты з чаргі Тыдзень Студыяў, ладжаны Беларускім Акадэміцкім Каталіцкім Аб'еднаньнем «Рунь». Быў ён ужо трэйцім у Лёндане, у Мар'ян Гаўз.

Было прачытана шэсьць дакладаў: а. Уладзімер Тарасэвіч зрабіў два даклады з прасьвятленьнямі аб Палестыне, Эрузаліме, Эгіпце, Грэцыі і Турэччыне. Айцец Уладзімер нядаўна зьведаў успомненыя тут краіны і зрабіў цэлую калекцыю здымак тых месцаў і памятнікаў, якія асабліва спалучаныя зь гісторыяй Ісуса Хрыста, сьв. Паўла і з расшырэньнем хрысьціянства. Айцец Леў Гарошка так-жа меў два даклады: Рэлігійная таleranцыя ў Беларусі і другі: Паланізацыя ў Беларусі. Абодвы даклады выклікалі ў прысутных вельмі ажыўленую ўвагу і пасьля дыскусійныя спрэчкі. Сп. Дамінік Аніська меў даклад маральна-рэлігійнага зьместу, які назваў «Заранка»; сп. Тодар Мазура зрабіў даклад на тэму: «Хрысьціянскія сьвятыя ў Беларусі». Гэта вельмі цікавая нераспрацаваная ў нас тэма была дапоўнена ў дыскусіі.

Апрача таго, часьць удзельнікаў Тыдня Студыяў скарыстала з дакладу а. Велыкага, базыльяніна, які чытаў даклад для Украінцаў на тэму хросту Украіны за часоў сьв. Вольгі.

У тым самым часе, калі рунеўцы мелі свой Тыдзень Студыяў, Украінцы мелі свой кангрэс «Обновы» (паралельная арганізацыя ў Пакс Романа да нашай «Руні») і ўрачыста сьвяткавалі 25-годзьдзе яе існаваньня. Пасьля таго, калі часьць рунеўцаў прыняла ўдзел у ваднэй із зборак «Обновы» і запрасіла «Обнову» ў Мар)ян Гаўз, мы мелі нязвычайную прыемнасьць вітаць у нашым беларускім асяродзьдзі ў Мар'ян Гаўз нятолькі больш 30 сяброў «Обновы», але і двух украінскіх Уладыкаў: Я. Э. Архіяпіскапа Івана Бучко і Я. Э. Япіскапа Максыма Гэрманюка, які прыехаў з Канады на гэты час у Эўропу.

Спатканьне распачалося супольнай малітвай у капліцы. Пасьля Ахіяпіскап Іван сказаў некалькі слоў. Сам Высокадастойны госьць і ўсе прысутныя былі нязвычайна ўсхваляваныя. Два найбольш церпячыя народы, маючы калісьці адну і тую самую слаўную бачыну царкоўнай гісторыі, хаця і ў маленькай колькасьці, спаткаліся ізноў на выгнаньні ў малітэўнай еднасьці. Пасьля ўсе былі запрошаныя ў залю на кілішак віна. Гутаркі, украінскія і беларускія сьпевы і дэкламацыі, прамовы Япіскапаў Балеслава, Івана і Максыма, а такжа Генэральнага Вікарага Украінцаў у В. Брытаніі і а. Ч. Сіповіча закончылі той незабыўны вечар. Гэты вечар быў такжа завяршэньнем працаў Тыдня Студыяў.

Няпоўнай была-б наша справаздача, калі-б мы ня ўспомнілі яшчэ некалькі характэрных мамэнтаў зь сёлетняга Тыдня Студыяў.

Адным зь іх — гэта ўдзел Я. Э. Балеслава Слосканса, Апостольскага Візытатара для Беларусаў. Удзел гэты не абмежываўся толькі да ролі абсэрватара ці пачэснага гасьця. Наш дарагі Біскуп кіраваў рэкалекцыямі, гаварыў казаньні, прыймаў жывы ўдзел ува ўсіх нашых працах Тыдня Студыяў. А дзеля таго, што Бог даў яму дар быць у ваднэй асобе Біскупам і адначасова сябрам кожнага, яго прысутнасьць была тым для Тыдня Студыяў, чым ёсьць аліва для розных восяў машыны.

Другім мамэнтам — гэта была візыта нашых суродзічаў з Нотынгэм. Прыехаў да нас сп. Язэп Ц-ко і зь ім чатыры сяброўкі. І так у руні зьявіліся васількі... Айцец Гарошка заімправізаваў даклад аб беларускай літаратуры, далей чыталіся паэзіі Коласа, Купалы, проза Бядулі і іншых беларускіх пісьменьнікаў. Айцец Франук (гэтаму не падзівіцца!) сказаў даўгі, ды мала каму ведамы верш Быліны (а. Семашкевіча), сп-ня Несьцяр прадэклямавала «З чужыны», далей панесьліся нашы гучныя сьпевы і гульні. Такым чынам прыезд нашых суродзічаў з Нотынгэм спрычыніўся да мілага вечара, прысьвечанага беларускай літаратуры і беларускай песьні.

Прыймала ўдзел у Тыдні Студыяў у сярэднім больш 20 чалавек, якія зьехаліся блізу з усіх краінаў Эўропы.

Гэты Тыдзень Студыяў ёсьць далейшым крокам наперад у вадраджэньні нашага рэлігійнага і нацыянальнага Жыцьця

Бог нам Бацька!

**а. Ч. С-ч**

**Рым, 7. 9. 1955.**

# Х-ты Міжнародны Кангрэс Гістарычных Ведаў

Ад 4 да 11 верасьня сёлета адбываўся ў Рыме Х-ты Міжнародны Кангрэс Гістарычных Ведаў. Прыймалі ў ім удзел вучоныя дэлегаты блізу ўсіх нацыяў сьвету. Калі Беларусаў рэпрэзэнтуе на кангрэсе дэлегат Савецкага Саюзу, некаторым вучоным Беларусам на выгнаньні было магчымым прыняць удзел хоць у ролі абсэрватараў.

Як далёкія разьбежнасьці могуць быць у дакладах, трэба мяркаваць хоць-бы з таго аднаго толькі факту, што ў Кангрэсе прыймаюць удзел вучоныя нятолькі розных нацыяў і расаў, але і розных сьветаглядаў. Побач з дэлегатамі Апостальскага Пасаду, якіх прозвышчы ведамы ўсяму сьвету, займалі месца і нейкія Лесьнодорскі, Космінскі дый іншыя прафэсары ці палітрукі.

Як савецкія «вучоныя» перашкаджаюць працам Кангрэсу, няхай сьветчыць тое, што здарылася ў час пасьляабедняга паседжаньня 6 верасьня, калі мелі свае даклады прафэсары О. Галецкі і З. Івінскіс. Праф. Оскар Галецкі гаварыў на тэму: «Ідэя Царквы ў Усходняй Эўропе пасьля Трыдэнцкага Сабору»; праф. З. Івінскіс на тэму: «Роля Езуітаў у змаганьні супраць псэўдарэфармацыі ў Літве». Перад імі меў даклад сп. Е. Г. Рупп на тэму: «Лютар і яго навука аб Царкве».

Пасьля кажнага дакладу адбываліся дыскусіі. Пасьля дакладу праф. Галецкага першы пачаў гаварыць Паляк зь цяперашняй Польшчы нейкі праф. Арнд. Хаця ён меў гаварыць у парадку дыскусіі, усю сваю прамову меў загадзя апрацаваную. Была яна не на тэму, але не памінуў у ёй польскі камуністы таго, што для яго было істотным: вылаяў Каталіцкі Касьцёл за падтрымоўваньне буржуазіі і капіталістых.

У часе дакладу праф. Івінскіса, калі гэты ўспомніў аб чырвоных барбарах, што занялі сучасную Літву, нехта на залі пачаў тупаць нагамі і шумець. Хутка выясьнілася, хто гэта быў такі: Сушко, савецкі дэлегат. Ён-жа сам неўзабаве, атрымаўшы ад старшыні голас, заявіў: «Замест згоднай навуковай працы, на Кангрэсе праводзіцца супроцьсавецкая прапаганда...» Пасьля гэтага старшыня сп. Фэбрэ зачыніў паседжаньне, не дапускаючы да дыскусіі на тэму дакладу праф. Івінскіса.

Ня дзівімся заявам савецкіх прафэсараў-палітрукоў, а той уступлівасьці заходніх вучоных, што замест скарэгаваць і паставіць на сваё месца выступы савецкіх дэлегатаў, паддаківаюць ім і б'юць па галовах і так ужо камуністымі бітых нешматлікіх вучоных народаў з-за зялезнай заслоны.

**А. Дзе-ка**

**УВАГА! УВАГА!**

## Важная літаратурная навіна!

Выйшаў з друку і ўжо прадаецца найвыдатнейшы твор Якуба Коласа




Кніга папярэджаная двума ўступнымі артыкуламі аб «Сымоне Музыку» Р. Склюта й А. Бабарэкі, з партрэтам аўтара, у прыгожай каляровай вокладцы мастака Міхася Наўмовіча, на добрай паперы, і абыймаў 214+XXXII (разам 246 бачынаў) друку.

Цана кнігі толькі 3 амэрыканскія даляры, а ў усіх іншых краінах іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.

Купляць і выпісваць непасрэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне або з нашых Прадстаўніцтваў у іншых краінах.

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўжо канчае друк альманаху твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі.

## *«Ля чужых берагоў»*

Цана альманаху будзе пададзеная толькі пасьля яго выхаду.

# Перад сьвістком судзьдзі

(ФЭЛЬЕТОН З «ПРАВДЫ» ЗА 31 ЖНІЎНЯ 1955 г.)

**АД РЭДАКЦЫІ: У папярэднім нумары «Б-ны» мы зьмясьцілі фэльетон «Пад апекай», узяты намі зь беларускае савецкае газэты. У фэльетоне гэным малюецца жахлівы вобраз карупцыі й зьдзірства, што пануюць у савецкіх гандлёвых установах. Фэльетон «Пад апекай» адлюстроўвае гэты стан на найніжэйшым шчэблі, у звычайнай сельскай мясцовасьці.**

**Сяньня падаем другі ўзор таго-ж тыпу. Гэтым аднак разам, гутарка ідзе не аб сельскай мясцовасьці, але паказваецца на спэкуляцыю й раскраданьне народнага дабра ў дзяржаўным рэспубліканскім маштабе (таму й фэльетон быў зьмешчаны ня, скажам, у «Звязьдзе», а ў «Правде»). З гэтага-ж сьлёзнага фэльетону відаць, што ад рэспубліканскіх зладзеяў «не адстаюць і абласныя».**

**Гэткім чынам, гэтыя два фэльетоны выразна паказваюць нам, што па цэлай Беларусі жырус сяньня армія бальшавіцкіх бюракратаў коштам поту й мазалёў паняволенага беларускага селяніна й работніка.**

*

Ня так даўно Менск ушаноўваў сваіх лепшых майстроў спорту. Старшыня Камітэту для фізычнае культуры й спорту пры Савеце Міністраў БССР Каноплін апублікаваў загад, які абвяшчаў:

«У сувязі з выдатным выступленьнем на фізкультурным парадзе, узнагарадзіць заступніка старшыні камітэту В. Некрасава 2 800 рублямі...» І далей былі пералічаны прозьвішчы яшчэ дваццаці сямі ўзнагароджаных.

Трэба прыпушчаць, што ўсе ўзнагароджаныя паказалі прыклады спрыту, сілы й вытрываласьці?.. Напэўна, гэтыя трыюмфатары — новыя рэкардсмэны, укаранаваныя ляўравымі вянкамі? Вось яны: галоўны бухгальтар А. Петрасяк, бухгальтар І. Басінкевіч, загадчык складу Д. Верабейчык, а пасьля касір, забесьпячэнцы, кладаўшчыкі, шофэры й шмат іншых працаўнікоў камітэцкага апарату.

Магчыма, у Беларускім камітэце так расьцьвіла фізычная культура, што навет бухгальтары й загадчыкі складоў ягонага апарату ставяць усесаюзныя рэкорды? Ня зусім так. Гэтыя спадары не апанавалі навет ранішніх фізычных практыкаваньняў.

І ўсё-ткі адзін рэкорд пастаўлены тым, хто ўдзельнічае ў сьпіску. Рэкардсмэн — вядучы ў сьпіску Васіль Некрасаў. За ўсю сваю цяжэзную кіравецкую фізкультурную дзейнасьць ён дабіўся немалых вынікаў у сваеасаблівым, ім-жа вынайдзеным відзе вясьлярна-грэбнага спорту. Гэты новы від дазваляе грэбці пры любой пагодзе, у любую пару году — і ўзімку, і ўлетку. І пры гэтым ня трэба лодак, байдарак, вадзяных базаў, басэйнаў... Каб толькі былі матар'яльныя базы: склады і дзяржаўная каса.

У спорце Некрасаў апанаваў толькі адно: ён знае – спорт карыстаецца пашанай і падтрымкай савецкага народу і савецкіх арганізацыяў. І вось Некрасаў энэргічна спэкулюе на замілаваньні да спорту. Некрасаў ня толькі заграбае сам. Ён і падгрэбвае для патрэбных людзей.

Адразу пасьля таго, як Некрасава ўзнагародзіў старшыня камітэту Каноплін, Некрасаў выдаў загад аб узнагародзе Каноплiна 2 000 рублямі. Як кажуць спартсмэны, заступнік старшыні зьвёў разьлікі.

Весьляры-грабцы, падобныя да Некрасава, любяць размах. Шырокая натура Некрасава ніяк ня ўкладваецца ў рамкі дзяржаўных законаў. І вось робяцца ўмовы з прыватнікамі. Нейкім Паповай і Кастэцкай даручаецца размалёўваньне пад трафарэт парадных суконак, сарочак і іншых відаў адзеньня. Толькі за адно з замоўленьняў і то аднэй толькі Кастэцкай, паводле самых сьціплых падлікаў, заплачана 70 450 рублёў, а ўсяго яна атрымала каля 245 тысяч рублёў. Ну, якжа пасьля гэтага не адзначыць прэміяй услужлівых весьляроў з каманды Некрасава — галоўнага бухгальтара, бухгальтара й касіра?

У 1954 годзе за посьпехі ў разьвіцьці футбольнага спорту было ўзнагароджана колькі чалавек. Урачыстая цырымонія ўзнагароджваньня выглядала вельмі сваеасаблівa. З кажнага, хто атрымоўваў грашовую ўзнагароду, спаганялася 10 працэнтаў у «фонд дзядзі Васі», гэта на карысьць Некрасава. Гэтак рэкардсмэн-заграбач незаконна «зарабіў» каля 10 000 рублёў.

Карысьць новага віду заграбальнага спорту ягоны вынаходнік ацаніў надзвычайна. Некрасаў даўно забыўся, як купляюцца рэчы за собскія грошы. Ён прыходзіць на склад і абменьвае лоб у лоб пашарпаную старызну на шоўкавыя вышываныя сарочкі, новенькія бастонавыя белыя касьцюмы...

Шчодрасьць і шырыня натуры заступніка старшыні набыла зайздросную папулярнасьць. Зайходзіць адпаведная асоба ў ягоны гасьцінны кабінэт і кажа:

— Фізкультпрывет!

— Гэтага й вам зычу. Чым магу служыць?

— У дарозе падвыдаткаваўся. Грошайбы крыху...

— Цяжка аформіць, — уздыхае Некрасаў.

— Але сабе-ж вы, Васіль Афанасьевіч, афармляеце.

— Дам, дам! — перапыняе яго Васіль Афанасьевіч. — Ня вы першы, ня вы апошні. Дзесяткі тысяч у даўжнікоў.

— Дзякую! Не спаганяйце ўжо...

— Не спагонім.

І запраўды, не спаганяюць.

Усім удзельнікам фізкультурнага параду забясьпечвалася заработная плата на месцы асноўнае працы. Але вось шчодры Некрасаў, наўсуперак дзяржаўным пастановам, выплаціў дадаткова каля 85 000 рублёў за кошт камітэту. І таксама ня прыпадкова. Лік здабытых пунктаў прыпісваўся ня столькі спартсмэнам, колькі фізкультурным урадоўцам. Бо-ж камандны склад беларускае спартовае дэлегацыі быў укамплектаваны з работнікаў камітэту.

Некрасаў і іншыя выказваюць прорву выдумкі й вынаходлівасьці для заграбаньня дзяржаўных грошай. Шмат якія спартсмэны з розных прычын не змаглі ўдзельнічаць у фізкультурным парадзе. Усе яны ў свой час поўнасьцяй атрымалі спартыўную форму, за што й расьпісаліся ў актах. Пасьля гэтую форму яны здалі. Аднак акты аб выданьні захаваны ў справаздачнасьці.. Гэтак, колькі ўмахаў рукамі (ня вёсламі) — і заграбаецца салідная сума. Некрасаўскія грабцы перасягнулі навет Чычыкава. Таму давадзілася таргавацца й плаціць за мёртвыя душы, а фізкультурныя дзялкі ўпісваюць у выдатковыя акты няіснуючых асоб і грэюць на гэтым рукі.

Па цэлым Савецкім Саюзе разгарнуўся шырокі ўсенародны рух за эканомію, а дзялкі зь Беларускага камітэту для фізычнай культуры й спорту марнатравяць грошы, ня лічачыся зь нічым. Благі прыклад заразны. Ад рэспубліканскага камітэту не адстаюць і абласныя. Раскраданьне й незаконныя выдаткі дзяржаўных грошай толькі ў вабласных камітэтах для фізкультуры й спорту Беларусі пазбавілі дзяржаву вялізарных сяродкаў.

У спартовых змаганьнях існуе добрае правіла: судзьдзя срога сочыць за датрымоўваньнем правілаў і карае парушальнікаў. Аднак у Беларускім камітэце для фізычнае культуры й спорту не сьпяшаюцца заклікаць гэтых парушальнікаў да парадку. А сьвісток судзьдзі быў-бы тут вельмі дарэчы.

**м. Менск**

**А. Макаёнак**
**М. Чаускі**

## НОВЫ ЧАСАПІС

Выйшаў з друку і ўжо прадаецца літаратурна-мастацкі часапіс

## *«Палесьсе»*

Замаўляць на адрас:
„PALESSIE", 4345 St. Urbain St.,
Montreal, Q., CANADA

Цана 50 цэнтаў

# Верым у палітычны розум

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

І галоўнае — нельга забывацца, які-б псыхалягічны эфэкт мела-б закрыцьцё ўспомненых радыястанцыяў на паняволеныя народы, да якіх яны прамаўляюць. Яны мелі-б усе падставы, каб зьняверыцца ў шчырасьці сымпатыяў вольнага сьвету да іхных вызвольных імкненьняў. Папярэддняя-ж вайна паказала на прыкладзе Гітлера, што значыць ігнараваць інтарэсы насельніцтва.

Мы верым, што здаровы палітычны розум падыктуе адказным амэрыканскім колам правільную разьвязку гэтае паважнае праблемы. Што-ж да беларускага народу і ягонае політычнае эміграцыі, дык мы ня спынім вызвольнага змаганьня, як ня спынілі яго на працягу дзесяцігодзьдзяў — з «тэхнічнай і матар'яльнай падтрымкай» ці безь яе.

**Уладзімер Немановіч**

## УВАГА!

Выйшаў з друку й прадаецца ў Рэдакцыі ЗЬНІЧУ (Roma, Traspontina 18) найнавейшы пераклад

**СЬВЯТОЕ ЭВАНЭЛІІ Й АПОСТАЛЬСКІХ ДЗЕЯЎ**

Кніга зьмяшчаючая 636 бачын, апрацавана й выдана салідна і прыгожа — як падае рэцэнзія ў № 25 (255) нашай газэты, дзе, як выясьняе дадаткова рэцэнзэнт, крытычная заўвага аб мове перакладчыка мае на ўвеце пэўныя толькі формы, вымагаючыя для некаторых чытачоў большага паясьненьня, а не — якія небудзь недапушчальнасьці.

Цана кнігі:
у брашуровай аправе 3 даляры,
у палатнянай аправе 5 даляраў.

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**